ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 7 (1762) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 18 ЛЮТАГА 1990 г. ЦАНА 600 зл.



*Настаўніца беларускай мовы ў школе ў Нараўцы Анна Янюк.*

## КЛОПАТ У НАРАЎЦЫ

У Нараўку мы паехалі з сакратаром ГП БГКТ Віктарам Стахвюком і старшынёю Аляксандрам Баршчэўскім. Запрасіў нас дырэктар Нараўчанскай школы Мікалай Герасімюк. У суботу, 27 студзеня, у школе праходзіў бацькоўскі сход.

Апрача дзяцей з самой Нараўкі, у школе вучацца дзеці з навакольных вёсак: Масева, Альхоўкі, Лясной, Плянты, Міклашэва, Гушчавіны і Скупава. Дзяцей прывозяць у школу і адвозяць дахаты школьным аўтобусам. Аўтобус робіць тры курсы. Першую групу дзяцей аўтобус забірае а палове сёмай уранні. Ім трэба чакаць на першы школьны званок а восьмай найдаўжэй. Затое папоўдні аўтобус адвозіць іх дахаты ў першую чаргу. Ды ўсё роўна невясёлае жыццё ў школьніка, які жыве на вёсцы. Асабліва зімовай парою, калі выходзіш і вяртаешся дадому ў поцемках. Рэарганізацыя школьніцтва ў сямідзесятыя гады дала вучням і настаўнікам так званыя зборныя гмінныя школы, палепшыла ўмовы працы і вучобы, але прынесла і адну немалаважную турботу: як дабрацца ў школу, каб страціць як мага менш часу.

У Нараўчанскай школе вучыцца 300 дзяцей. Каля шасцідзесяці школьнікаў вывучае беларускую мову. Адносна няшмат, калі мець на ўвазе тое, што пераважная большасць школьнікаў — гэта дзеці беларусаў. Першая цяжкасць для дырэктара і настаўнікаў: як скласці план урокаў, калі не ўсе вучні ў класе вывучаюць беларускую мову. Вырашэнні гэтага пытання, наогул, у большасці школ з беларускай мовай выглядаюць аднолькава. Урокі беларускай мовы адбываюцца або на пачатку, або пад канец школьных заняткаў. Не надта добрая сітуацыя з пункту гледжання навучальнагага працэсу. Успрымальнасць і актыўнасць вучня найбольшыя на трэцім-чацвёртым уроку. На шостым-сёмым яны прыкметна ідуць на спад. Таксама на першым уроку назіраецца значна абмежаваная актыўнасць школьніка: першы ўрок з'яўляецца своеасаблівым „разбегам" у заняткі.

(Працяг на стар. 5)

## беларускі каляндар

Выйшаў з друку каляндар Галоўнага праўлення БГКТ на 1990 год. Тыраж: 5000 экземпляраў. Рэдактар выдання: Яўген Мірановіч. Праект вокладкі Віктара Стахвюка. Аб'ём календара: 13 выдавецкіх аркушаў. Цана календара не пазначана, але вядома, што будзе ён прадавацца па 5000 злотых за экземпляр. Як штогод, жыхары Беласточчыны могуць набываць каляндар у аддзелах БГКТ у Беластоку, Бельску, Гайнаўцы ды ў рэдакцыі „Нівы". Канчаткова не вырашана справа набывання календара жыхарамі БССР (зацікаўленне гэтым выданнем на Беларусі даволі вялікае, калі меркаваць паводле карэспандэнцыі, якая прыходзіць у нашу рэдакцыю). БГКТ зрабіла ўступныя захады дзеля таго, каб „Беларускі каляндар" можна было набываць у Мінску. Калі справа канчаткова высветліцца, наша газета неадкладна паінфармуе аб гэтым. На жаль, у сучасны момант немагчыма арганізаваць высылку календара праз пошту: кошт гэтае высылкі перавышае цану аднаго экземпляра.

Традыцыйна ўжо выданне пачынаецца календарнай часткай з каталіцкімі і праваслаўнымі імяніннікамі ды з азначэннем дзяржаўных і рэлігійных святаў. Далей змешчаны летапіс падзей у беларускім грамадска-культурным руху на Беласточчыне за перыяд ад ліпеня 1988 да чэрвеня 1989: „У БГКТ і не толькі" (з-за карэктарскага недагляду загаловак гэты набыў даволі файнае гучанне: „У БГКТ і не толкі").

Асабістыя зацікаўленні і схільнасці рэдактара календара (Яўген Мірановіч — гісторык) знайшлі поўнае адлюстраванне ў падборцы матэрыялаў, змешчаных у „Беларускім календары 1990". Цэнтральнае месца займае ў ім гістарычная частка, прадстаўленая тэкстамі Міколы Гайдука, Антося Міpановіча, Юркі Туронка, Міколы Давідзюка, Кастуся Сідаровіча, Крыстыны Гамулкі і Алега Латышонка.

Тэкст Міколы Гайдука „Адгэтуль мы родам" пераносіць чытача ў сівую мінуўшчыну, разварушваючы падзеі, што адбываліся на тэрыторыі сучаснай Беласточчыны і сумежных з ёю зямель у дванаццатым стагоддзі. Рэкамендаваць М. Гайдука спецыяльна не трэба: усім вядомы ягоныя жывыя замалёўкі з даўніны беларускіх зямель, публікаваныя ў „Ніве".

Антось Міpановіч прадстаўляе постаць святога Гаўрылы Заблудаўскага, адзінага беларускага святога з земляў сучаснай Польшчы. Св. Гаўрыла нарадзіўся ў 1684 годзе ў Зверках каля Заблудава, у шасцігадовым узросце стаў ахвяраю дзікага і да канца не высветленага забойства. Быў кананізаваны Праваслаўнай царквою ў палове васемнаццатага стагоддзя.

Нарэшце ўдалося Юрку Туронку змясціць у „Календары" свой нарыс пра Веру Маслоўскую, беларускую незалежную і рэвалюцыйную дзеячку родам з Беласточчыны. Папярэдне тэкст некалькі разоў спыняўся цэнзурай. Лёс нашай зямлячкі, настаўніцы беларускай мовы, арганізатаркі беларускага паўстанчага руху ў пачатку 20 гадоў, прысуджанай у працэсе 45-ці беларусаў у Беластоку ў 1923 г. да турэмнага зняволення, дае сведчанне пра вернасць беларускай інтэлігенцыі свайму народу і ідэалам нацыянальнай незалежнасці. (Чытачам „Календара" належыцца паясненне, што тэкст Васіля Петручука, на які паклікаецца Ю. Туронак у сваім нарысе, быў пачаткова запланаваны таксама да публікацыі ў сёлетнім выпуску „Беларускага календара", аднак жа ў канчатковым выніку не аказаўся ў ім).




Дослед Міколы Давідзюка „Справа беларусізацыі праваслаўнай царквы ў святле палітыкі польскіх дзяржаўных улад

(Працяг на стар. 7)

## НА МЯЖЫ

— 1 —




На працягу многіх гадоў у нашай краіне, а тым болей у Савецкай Беларусі, кожная праява беларускай афіцыйнай дзейнасці ў час акупацыі трактавалася як найцяжэйшая здрада. Па сутнасці сапраўднымі сумленнымі беларусамі лічыліся толькі тыя, хто ў час акупацыі змагаўся ў партызанскім руху. Выходзячы з такога пункту гледжання, усе беларускія эмігранты трактаваліся як страшэнныя злачынцы. Іх злачынства мела падвойны характар. Па-першае, у час акупацыі яны, як правіла, працавалі ў розных установах, дапускаючыся такім чынам да здрады айчыны. Па-другое, здрадзілі гэтай айчыне другі раз, пакінуўшы яе і не вярнуўшыся пасля вайны ў Савецкі Саюз, не стаўшы перад „справядлівым“ судом і не прыняўшы справядлівага прысуду.

Здаецца мне, што час задумацца над праблемай супрацоўніцтва беларусаў з акупантамі. Калі разабрацца, дык з немцамі супрацоўнічалі мільёны беларусаў. Бо ці ж мой бацька, нават я, не супрацоўнічалі з імі, калі плацілі немцам падаткі, пастаўлялі акрэсленую немцамі норму малака, мяса і збожжа? А ці ж не супрацоўнічала з немцамі мая сястра, якая працавала на магутнасць рэйха, вывезеная на прымусовыя работы ў Кёнігсберг? І вось такіх, як мы, „супрацоўнікаў“ былі мільёны. У сталінскім разуменні справы ўсе мы былі злачынцамі, і кожнага з нас можна было пасадзіць, як саджалі сотні тысяч салдат Чырвонай Арміі, якія трапілі ў нямецкі палон. Сталінскае разуменне віны і патрэбы паддацца санкцыям „справядлівага“ суда вельмі яскрава выступіла ў славутым фельетоне, змешчаным у „Голасе Радзімы“, які быў прысвечаны Аляксандру Надсону. Аўтар фельетона прыводзіць фрагменты свайго роду адкрытага ліста, які накіроўвае ў адрас Аляксандра Надсона яго даўні сябар з перыяду акупацыі. „Сябар“ гэты закідае Аляксандру Надсону тое, што ён не вярнуўся на Радзіму і не стаў перад справядлівым савецкім судом. Супрацьстаўляе ён Аляксандру Надсону самога сябе, гаворачы, што ён быў асуджаны, адседзеў свой тэрмін, згладзіў сваю віну, выйшаў на свабоду з ачышчаным сумленнем. Уся бяда ў тым, што ні выказванні гэтага „сябра“, ні закід аўтара фельетона не акрэсліваюць характару віны ні сваёй, ні Надсона. Адзінае акупацыйнае злачынства заключалася ў тым, што яны былі членамі саюза беларускай моладзі.

Прыглядзьмася глыбей да рэчаіснасці акупаванай Беларусі. У першыя месяцы акупацыі ў заходніх раёнах Беларусі пачала вельмі хутка стварацца цывільная польская адміністрацыя і польскае школьніцтва. Ва ўсходніх раёнах Беларусі ўзнікала руская адміністрацыя і рускае школьніцтва. Што гэта азначала для беларускага нацыянальнага існавання? Азначала поўную згубу. Беларуская свядомасць, нішчаная са страшэннай сілай Сталіным у 1930—1941 гады і польскімі ўладамі ў Заходняй Беларусі, трапляла пад новыя ўдары. Зразумела, што маючы ў сваіх руках адміністрацыю, школьніцтва, а з часам і цывільную паліцыю, паланізатары і русіфікатары маглі вельмі эфектна распраўляцца з усім беларускім на беларускай зямлі. Вядома, што многія беларусы будучыню сваёй радзімы бачылі ў хуткім разгроме Германіі як дзяржавы і тыя звязалі свой лёс з партызанамі. Аднак акупацыя аказалася з'явай доўгатрывалай і частка беларусаў, ідучы за прыкладам палякаў і рускіх, вырашыла выкарыстаць легальныя магчымасці ратавання свайго народа легальным шляхам.

Такім чынам пачалася барацьба за адміністрацыю і школьніцтва паміж беларусамі з аднаго боку і палякамі ды рускімі з другога. Была гэта барацьба жорсткай і часта нават крывавай. Ніхто не хацеў дабравольна адмаўляцца ад шанцаў. Зразумела, што немцы ўсё гэта бачылі, разумелі і ў значнай ступені былі зацікаўленыя развіццём змагання. Бо вядома, што ўсе гэтыя народы трактавалі яны як ворагаў і былі зацікаўленыя, каб паміж імі не было згоды.

Так ці інакш, беларусам удалося ў многіх раёнах Беларусі ўвесці сваю адміністрацыю і сваё школьніцтва. Паявілася вялікая колькасць беларускіх чыноўнікаў, беларускіх настаўнікаў і школьных інспектараў. Між іншымі актыўным змагаром за беларускую асвету быў родны брат Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, які пасля ўцёк на захад, бо не хацеў станавіцца перад „справядлівым“ сталінскім судом, які, безумоўна, прыгаварыў бы яго на сібірскую ссылку. А ў чым заключалася яго злачынства? У тым, што вучыў на беларускай зямлі беларускіх дзяцей па-беларуску!

Трэба дадаць, што многіх з беларускіх адміністрацыйных, асветніцкіх і нават рэлігійных дзеячаў, якія вялі афіцыйную дзейнасць, немцы расстралялі. За тых, хто не здолеў уцячы перад фронтам, узяўся Сталін. Лічу, што сапраўдную большасць гэтых людзей трэба афіцыйна рэабілітаваць, зняць з іх кляймо злачынцаў і здраднікаў і залічыць у шэрагі нармальных сыноў і дачок Радзімы.

**Алесь Барскі**

# Варочаюць сядзібы

**У сувязі з беларускай радыёперадачай ад 21 студзеня 1990 г. і многімі пытаннямі слухачоў інфармую, што сяляне, якія аддалі дзяржаве сваю зямлю ўзамен за рэнту перад 1 студзеня 1983 года, могуць звярнуцца да гмінная ўправы з заявай аб звароце для сябе на ўласнасць свайй сядзібы, на якой стаяць будынкі (узор заявы друкуем ніжэй).**

...........................
imię i nazwisko

...........................
miejscowość

Naczelnik Gminy

w .....................

Na podstawie art.6 Ustawy z dn.24 lutego 1989r. o zmianie Ustawy o ubezpieczeniu społecznym rolników indywidualnych i ich rodzin, wnoszę o przeniesienie z powrotem na mnie własności działki gruntu ( zwanej siedliskiem), oddanej Państwu za rentę ( lub emeryturę),umową z dn. .....................

...........................
miejscowość , data

...........................
podpis

Трэба ведаць, што зварот сядзібы не перашкодзіць далей атрымоўваць рэнту.

**В. Стахвюк**

# Ліст Леху Валэнсу

*Ніжэй друкуем пісьмо Беларускага каардынацыйнага камітэта ў Чыкага, даручанае 18 лістапада 1989 года старшыні „Салідарнасці“ Леху Валэнсу падчас яго візіту ў Злучаных Штатах Амерыкі. Тэкст перакладзены з польскай мовы.*

**Шаноўнаму Пану Леху Валэнсу, старшыні „Салідарнасці“ ў Гданьску, у Польшчы.**

Шаноўны Пан Валэнса!

Доўгія гады мы многа чыталі і чулі пра Вас і Вашу храбрасць і настойлівасць у барацьбе за правы Польскага Народа. Мы заўсёды захапляліся Вамі і Вашай моцнай воляй. Сёння вельмі цешымся з таго, што маем аказію сустрэць Вас асабіста і прадставіць Вам турботы і смутакванні нашага Беларускага Народа і ветліва прасіць Вас даць адказ на ніжэй пастаўленыя пытанні.

1. Мы, амерыканцы беларускага паходжання, хацелі б ведаць, як ставіцца „Салідарнасць“ да нацыянальных меншасцяў у Польшчы, перш за ўсё да беларусаў. Вам, мабыць, вядома, што ў Польшчы жыве каля паўмільёна беларусаў — да 350 тысяч на Беласточчыне і да 150 тысяч на Вернутых Землях і ў глыбі Польшчы, уключна са сталіцай Варшавай. Ці „Салідарнасць“ клапоціцца аб эканамічным, культурным, рэлігійным і моўным развіцці і магчымасцях удасканальвання гэтага ўсяго?

2. Як Вам добра вядома, усходнім суседам Польшчы з'яўляецца ніхто іншы, а толькі Беларусь. Слухаючы Вашу прамову 15 лістапада ў Кангрэсе Амерыкі ў Вашынгтоне, мы вельмі здзівіліся. Вы назвалі розныя народы Савецкага Саюза, уключна з рускім, які спрычыніў Польшчы многа крыўды, але абышлі маўчаннем беларусаў, так, як бы яны зусім не існавалі. А там жа таксама адбываюць зрухі і нам вядома, што яны бяруць прыклад з руху „Салідарнасць“.

Мы хацелі б ведаць, чаму Вы і іншыя польскія лідэры абыходзяць маўчаннем беларусаў. Зараз на Беларусі жыве дзесяць з паловай мільёнаў людзей, з якіх восемдзесят пяць працэнтаў — гэта беларусы. Налічваецца таксама да чатырох мільёнаў беларусаў, пражываючых на тэрыторыі Савецкага Саюза, перш за ўсё ў Сібіры і ў Расійскай Рэспубліцы. Чаму ж не лічыць іх братамі ў барацьбе за свабоду і незалежнасць?

Жадаем Вам і Вашай арганізацыі, а таксама цяперашняму польскаму ўраду поспехаў і дасягненняў у здабыцці сапраўднай свабоды і справядлівасці не толькі для Польшчы, але і для сваіх суседзяў на ўсходзе, захадзе, поўначы і поўдні. Мы, як прадстаўнікі ад Беларускай Грамады ў Чыкага, спадзяемся прызнання, пашаны і супрацоўніцтва.

Няхай жыве свабодная і незалежная Польшча разам са сваёй суседкай — Беларуссю!

Яшчэ раз ветліва просім Вашага адказу.

З пашанай

Д-р Вітаўт Рамук
Старшыня
Сп. Вера Рамук
Сакратар

Беларускі каардынацыйны камітэт у Чыкага,
Ілінойс, у Злучаных Штатах Амерыкі.

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## Беларускі часопіс для англамоўнага свету

Ад ліпеня 1989 г. пачаў выходзіць новы часопіс — квартальнік „Bielorussian Rewiev“ (Беларускі агляд), які друкуецца на англійскай мове. Гэта свайго роду навіна ў беларускім жыцці ў Амерыцы — беларускі часопіс не па-беларуску. Часопіс выдае каліфарнійскі аддзел БАЗА. Дагэтуль выйшла два яго нумары. На гэтую тэму размаўляю з адным з выдаўцаў квартальніка Джо Прайсам.

**Ю. Ляшчынскі:** — Дзе і калі нарадзілася ідэя англамоўнага часопіса, прысвечанага беларускай праблематыцы?

**Джо Прайс:** — Ідэя „Bielorussian Rewiev“ зрадзілася ўжо некалькі гадоў таму, і, так сказаць, мае дзве прычыны. Першая — мы, беларуская эміграцыя ў Злучаных Штатах, заўважылі, што маладое пакаленне беларусаў мала цікавіцца бацькаўшчынай сваіх продкаў, неяк адыходзіць ад беларускіх спраў. Прычына такога становішча, аказваецца, вельмі простая — яно недастаткова валодае беларускай мовай. Дагэтуль амаль уся інфармацыя пра Беларусь на эміграцыі падавалася па-беларуску. А мясцовая англамоўная прэса мала ўвагі адводзіла падзеям на Беларусі.

**Ю. Л.:** — Чаму такое малое зацікаўленне амерыканскай прэсы беларускімі справамі?

**Д. П.:** — Вось у гэтым другая прычына ўзнікнення „Bielorussian Rewiev“. Мы свой часопіс рассылаем у рэдакцыі амерыканскіх газет, у бібліятэкі, навуковыя ўстановы. Такім чынам хочам зацікавіць амерыканцаў падзеямі на Беларусі. Хочам інфармаваць англамоўны свет, навуковыя ўстановы пра сапраўднае становішча на Беларусі, наогул пра самую Беларусь. Часта і сёння так здараецца, што на звычайных геаграфічных картах у Злучаных Штатах Беларусі як геаграфічнай адзінкі наогул няма. Выдзелены з Савецкага Саюза Прыбалтыка, Украіна, Каўказ і далей вялікія, вялікія прасторы.

**Ю. Л.:** Крыўдна, калі нашу Бацькаўшчыну не заўважаюць у заходнім свеце. Але гэта не толькі віна нас, беларусаў, хутчэй нашых суседзяў. Які змест вашага часопіса?

**Д. П.:** — Наш часопіс складаецца з некалькіх галоўных рубрык:

а) хроніка падзей на Беларусі (мы пачалі прадстаўляць не ад апошніх 10 гадоў);

б) актуальныя праблемы: родная мова, чарнобыльская трагедыя, сталінскія злачынствы (Курапаты), экалогія;

в) агляд заходняй прэсы, якая піша пра Беларусь, а калі знойдзем большыя памылкі, стараемся іх выправіць у сваім часопісе;

г) беларусы па-за межамі рэспублікі, перш за ўсё на вашай Беласточчыне.

**Ю. Л.:** — Дзе ж знаходзяцца крыніцы для такіх вестак?

**Д. П.:** — У першую чаргу беларуская савецкая і эміграцыйная прэса. Але карыстаемся таксама самвыдатамі з БССР і Беласточчыны, небеларускамоўнай прэсай, весткамі з радыё.

**Ю. Л.:** — Якія ёсць водгукі на ваш часопіс, хто вашыя чытачы?

**Д. П.:** — „Bielorussian Rewiev“ высылаем у навуковыя ўстановы ЗША, Канады і Еўропы, бібліятэкі і рэдакцыі некаторых газет. Гэта адна частка нашай высылкі. Другая, намнога большая, гэта беларусы (але не толькі), якія пражываюць на Захадзе. У свой час зрабілі мы заклік да бацькоў-беларусаў праз „Беларуса“, каб яны дасылалі адрасы сваіх дзяцей, якія не чытаюць па-беларуску. Водгукі ўжо ёсць. Людзі нас падтрымліваюць, заахвочваюць да далейшай працы. Гэта цешыць і дадае сілы.

**Ю. Л.:** — „Bielorussian Rewiev“ — гэта сапраўды ахвярная і высакародная ідэя. Якім чынам можна атрымаць ваш часопіс?

**Д. П.:** — Трэба паведаміць нам свой адрас і ўплаціць адпаведную квоту. Студэнтам часопіс высылаецца бясплатна. Наш адрас. „Bielorussian Rewiev“, P.O. Box 10353 Torrance, CA. 90505, USA.

**Ю. Л.:** — Дзякую за размову і жадаю плённай працы.




*2 снежня 1989 г. адбылося студэнцкае падарожжа ў Старое Беразова, дзе святкавалася 63 гадавіна разгону паліцыяй павятовага з’езда БСР Грамады.*

### СХОД ГАЛОЎНАЙ РАДЫ

21 студзеня ў памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку адбылося першае пасяджэнне нававыбранай Галоўнай рады Беларускага аб’яднання студэнтаў. Пачалося яно з абмеркавання арганізацыйных спраў. Вырашана было правесці да паловы сакавіка сходы гурткоў у паасобных вышэйшых школах, выбраць у іх новыя ўлады, сабраць складчыны, адкрыць валютны рахунак. Затым гутарка зышла на святкаванне 25 Сакавіка, якое ГР БАСа рашыла ўшанаваць у Беластоку. З задавальненнем будзе сустрэта кожнае канструктыўнае супрацоўніцтва, асабліва спадзяемся на Грамаду, якая забяспечыла б дакладамі як пра гісторыю, так і пра сучасную палітычную сітуацыю. Да 25 Сакавіка будуць выдадзены прынагодныя значкі і паштоўкі. Ушанаванне нацыянальнага свята закончыць малебен у адной з праваслаўных цэркваў Беластока. Паштовыя карткі будуць друкавацца таксама перад іншымі святамі (Вялікдзень, Купалле) ды з нагоды веснавога паломніцтва праваслаўнай моладзі на гару Грабарку.

Далей пачалася дыскусія пра выбары ў самаўправы. Паколькі мінулагоднія выбары ў парламент ПНР мелі больш прапагандыцкае значэнне (беларусы добра ў іх заіснавалі як палітычная сіла), дык сёлетнія прынясуць адчувальныя вынікі на месцы. Ад таго, ці здолеем узяць уладу ў свае рукі ў паасобных гмінах, будзе залежаць наш лёс, лёс беларускага школьніцтва, культурных устаноў, эканомікі. Таму члены БАСа прымуць 10 лютага ўдзел ва ўстаноўчым сходзе беларускай партыі і дапамогуць у правядзенні выбарчай акцыі, як гэта зрабілі летась.

Абмяркоўвалася таксама супрацоўніцтва з сябрамі ў БССР. Быў зачытаны ліст ад старшыні гродзенскай „Паходні“ Міколы Таранды ў рэдакцыю „Сустрэч“. Ён, старшыня, надалей падрыхтоўвае прапанову турыстычнага абмену і абавязваецца прымаць студэнтаў з Беласточчыны ў Гародні, як, дарэчы, рабіў ужо не адзін раз. Пад дыскусію быў пастаўлены праект пагаднення паміж БАСам і Канфедэрацыяй беларускіх маладзёжных суполак. Асабліва важная друкарская кааперацыя і абмен выдавецтвамі.

На канец гаварылася пра арганізацыю мерапрыемстваў больш забаўнага характару, як запусты ці фестываль музыкі беларускай моладзі „Басовішча“. Разважаліся таксама магчымасці двухтыднёвага этнаграфічнага курсу летам у Вялікіх Азяранах і студэнцкай базы ў Валілах-Станцыі. Сход закончыўся вызначэннем тэрміну наступнага спаткання на 17 лютага.

**Мікола Ваўранюк**

### 72 ГАДАВІНА БНР

**Усіх зацікаўленых нашай гісторыяй сардэчна запрашаем на святкаванне 72 гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.**

**Урачыстасць адбудзецца 24 сакавіка 1990 г. у будынку ГП БГКТ на вул. Варшаўскай 11.**

**Галоўная рада БАС**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

### АЎКЦЫЁН У КРАКАВЕ

*На вул. Бітвы пад Леніна № 1 у Кракаве знаходзіцца Гарнізонны клуб, дзе 6—8 сакавіка г.г. адбудзецца 71 Кракаўскі антыкварны аўкцыён, на якім будуць таргавацца м. інш. наступныя пазіцыі:*

*Poz. 74 — Bergerówna J., Księżna pani na Kocku i Siemiatyczach, Lwów 1936. Cena wywoławcza 30 tys. zł.*

*Poz. 129 — Buszczyński S., Posłannictwo Słowian i odrębność Rusi, Kraków 1885. C. w. 6 tys. zł.*

*Poz. 142 — (Chłapowski K.), Wojna na Litwie w roku 1831, Kraków 1913. C. w. 10 tys. zł.*

*Poz. 168 — Czacki T., O litewskich i polskich prawach, o ich duchu, źródłach, związku i o rzeczach zawartych w pierwszym Statucie dla Litwy..., T. 1—2, Warszawa 1800—1801. C. w. 240 tys. zł.*

*Poz. 217 — Dyakowski B., Z puszczy Białowieskiej, W-wa—Kraków—Lublin 1926. C. w. 6 tys. zł.*

*Poz. 231 Ejsmond J., Moje przygody łowieckie, Poznań (1929). C. w. 16 tys. zł.*

*Poz. 319 — Gumowski M., Mennica wileńska w XVI i XVII wieku, W-wa 1921. C. w. 40 tys. zł.*

*Poz. 394 — Jodkowski J., Grodno i okolice w zaraniu dziejów Litwy i Rusi nad Niemnem, Grodno 1928. C. w. 6 tys. zł.*

*Poz. 412 — Karbowski W., Ludwik Narbutt, Grodno 1935. C. w. 12 tys. zł.*

*Poz. 414 — Karpiński J. J., Puszcza Białowieska i Park Narodowy w Białowieży, Kraków 1930. C. w. 6 tys. zł.*

*Poz. 453 — Kłos J., Wilno, Przewodnik krajoznawczy, Wilno 1929. C. w. 20 tys. zł.*

*Poz. 513 — Kraszewski J. I., Litwa, T. 2, Historya od początku XIII wieku do roku 1386, W-wa 1850. C. w. 20 tys. zł.*

*Poz. 695 — Mościcki H. S., Pod znakiem orła i pogoni, Lwów—W-wa 1923. C. w. 10 tys. zł.*

*Poz. 696 — Mościcki H., Wilno, W-wa 1922. C. w. 10 tys. zł.*

*Poz. 711 — Naruszewicz A., Żywot J. K. Chodkiewicza..., T. 1—2, Kraków 1858. C. w. 20 tys. zł.*

*Poz. 754 — Orłowicz M., Przewodnik ilustrowany po Województwie Białostockim, Białystok 1937. C. w. 16 tys. zł.*

*Poz. 799 — Piechnik L., Dzieje Akademii Wileńskiej, T. 1—3, Rzym 1983—87. C. w. 160 tys. zł.*

*Poz. 932 — Schmuck A., Z Pińska do Augustowa kajakiem, Lwów 1937. C. w. 6 tys. zł.*

*Poz. 941 — Semkowicz W., Sfragistyka Witolda, Kraków 1931. C. w. 4 tys. zł.*

*Poz. 1039 — Snieżko A., Dworek Mickiewiczowski w Nowogródku, Lida 1939. C. w. 5 tys. zł.*

*Poz. 1066 — Tur L., Uniwersytet Wileński i jego znaczenie, Lwów 1903. C. w. 8 tys. zł.*

*Poz. 1104 — Wasiutyński W., Zagadnienie ziem wschodnich, W-wa 1936. C. w. 4 tys. zł.*

*Poz. 1215 — Ziembicki W., Ostatnie łowy Batorego, Lwów 1937. C. w. 4 tys. zł.*

*Poz. 1425 — Pilichowski A. P., Risunki znamienitszich cerkwiej Małoj, Wielikoj i Biełoj Rusi, Lwów 1896. C. w. 200 tys. zł.*

*Poz. 1693 — Rocznik Ziem Wschodnich, T. V (1939). C. w. 16 tys. zł.*

*Арганізатар аўкцыёна — Навуковы антыкварыят (вул. Слаўская № 10, 31-014 Кракаў) дазваляе прыняць карэспандэнцыйны ўдзел у торгах. У пісьмовых заказах трэба падаць нумар пазіцыі, прозвішча аўтара, загаловак і найбольшую суму грошай, якую заказваючы можа заплаціць за кнігу.*

**Пётр Байко**



## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ

*Царква ў Старасельцах.*
*Мал. У. Петрука.*

## КАРОТКІ АБРЫС БЕЛАРУСКАГА ПЫТАННЯ

**ПАДРЫХТАВАЎ АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ**

### З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛ), ВАРШАВА, 1928.

— 11 —

**Сёмы раздзел**

**Адносіны палякаў да развіцця беларускай справы. Арганізацыя Рамана Скірмунта. Перыяд 1906-1915 года. Беларускае школьніцтва ў гады сусветнай вайны. Нямецкія практыкі. Вільня і Мінск як цэнтры беларускага руху.**

Польскае грамадства вымушана было акрэсліць свае адносіны да беларускага рэвалюцыйнага руху. Адносіны гэтыя павінны былі быць адмоўнымі хаця б з тае прычыны, што развіццё беларускага руху ў такой форме, у якой ён выступаў, пагражала знішчэннем польскім зямельным уладанням на Беларусі. Апрача гэтага, для польскасці на крэсах даволі вялікай пагрозай было тое, што да беларускай нацыянальнасці пачалі прызнавацца многія палякі. Магчымасці польска-беларускага канфлікту разумелі як палякі, так і беларусы. Для залагоджвання канфлікту ўзнікла ў 1908-1909 гады арганізацыя, на чале якой стаяў Раман Скірмунт. Мэтай гэтай арганізацыі было запанаванне над беларускім рухам і накіраванне яго дзейнасці на карысць польска-беларускага сужыцця.

Беларусы паслярэвалюцыйныя 1906-1915 гады, аж да выбуху сусветнай вайны і нават

## АЛЯКСЕЙ П[illegible]ЕВІЧ

## ТВОРЧЫЯ ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦІ Ў „БЕЛАВЕЖЫ"

(Заканчэнне)

Народная моўная стыхія моцная і ў зборніку апавяданняў М. Шаховіча „Вада ў рэшаце" (1984), тым больш, што тут многа дыялогаў. Але аўтар не пераймае жывой гаворкі з яе бытавой архаікай. Для яго важна, каб вытрымаць салідны тон аб'ектыўнага назіральніка за рознымі праявамі жыцця. Гэты тон набывае здзеклівае гучанне, бо сітуацыі, адлюстраваныя ў творах, кур'ёзныя, анекдатычныя. Пісьменнік выстаўляе на смех чалавечыя заганы, сцвярджаючы такім чынам сучасныя маральна-этычныя каштоўнасці.

Іншая справа — мова М. Шаховіча ў легендах, што друкуюцца ў „Ніве". Гэта творы народнага складу, і маўленне тут раскаванае паводле інтанацыі, багатае жывымі гутарковымі асаблівасцямі.

Добрая гістарычная проза ў Міколы Гайдука, аўтара зборніка казак і легенд „Аб чым шуміць Белавежская пушча" (1982). Яго апавяданні цікавыя дакладнасцю і прадметнасцю апісанняў мінулага. Разам з тым яны паэтычныя, сагрэтыя пачуццём сардэчнай прыхільнасці аўтара да роднай гісторыі. М. Гайдук не толькі ведае гісторыю, а і, галоўнае, добра адчувае яе этнаграфічна-бытавую фактуру. Таму сцэны, малюнкі жыцця ў яго жывапісныя, густа сплеценыя. Зрэшты, гэта прыкмячаецца нават у гістарычных нарысах, знаёмых чытачу са старонак „Нівы". Пісьменнік тут ідзе поплеч з гісторыкам. Умее пісаць празаік і прыроду. У апавяданні „Жнівень у Белавежскай пушчы", напрыклад, чуецца моцны пульс жыцця прыроды, глыбокая плынь яе натуры, шмат у чым суладная з плынню чалавечага жыцця. М. Гайдук, праўда, часам аздабляе свае назіранні, і яны становяцца „прыгожымі", літаратурна штучнымі. Увогуле ж проза яго свежая, па-мастацку прывабная.

Магутная глыба каштоўнай пароды — так уяўляецца талент празаіка Сакрата Яновіча. Магутная тут эпічная аб'ёмнасць, філасофская маштабнасць светаўспрымання пісьменніка. Схільнасць да аналізу жыцця, пошуку яго гуманістычных вартасцей, пошуку ісціны ў сённяшняй складанай і супярэчлівай нашай рэчаіснасці — арганічная якасць творчасці С. Яновіча. У гэтым кірунку ён проста эстэтычна „заведзены" і таму натуральны як мастак. Жыццёвая ж пляцоўка герояў пісьменніка звычайна звужаная, нават часта зусім маленькая. Жывуць яны звыклымі будзённымі клопатамі. Аўтар выхоплівае нязначныя праявы іх быцця і падае лаканічна, рэпартажна лёгка, фіксуючы цікавыя для сябе знешнія дэталі. Але ў такіх скупых сітуацыях жыцця і ўвасабляюцца пісьменнікам людскія драмы, маральныя падзенні і страты, нечаканыя перамены лёсаў. Вялікая ў творах роля падтэксту, другога плану, дзе крыецца думка пра чалавечую дарогу на зямлі, пра беднасць і багацце душы, пра лакейскую ўгодлівасць і высокую годнасць жыцця, пра нацыянальныя каштоўнасці. Трывалыя ў творчасці Яновіча народныя маральна-этычныя арыенціры, узгадаваныя стагоддзямі працоўнай практыкі беларускай вёскі. Яны дазваляюць пісьменніку быць дакладным і паслядоўным у сваіх ацэнках жыцця і чалавека. Яны зноў і зноў вяртаюць яго да балючых працэсаў духоўнага распаду асобы, што апынулася паміж вёскай і горадам, паміж родам сваім і чужым і ўсё болей адыходзіла ад свайго.

Пачынаючы з першай кнігі „Загоны" (1969), пісьменнік псіхалагічна даследуе драматычны разлом жыцця, які адбываецца на сумежжы вясковай і гарадской рэчаіснасці, і са скрухаю заўважае яго вынікі. Гэтак аўтарскае элегічнае пачуццё ў

да нямецкай акупацыі, трактавалі як эпахальныя ў гісторыі свайго развіцця. Праўда, у сувязі з праследаваннямі беларускіх арганізацый з боку царскага ўрада палітычная дзейнасць у гэты перыяд амаль што спынілася. Нягледзячы на гэта, існаванне беларускага тыднёвіка „Наша ніва“ і асветніцка-культурная праца мелі ўплыў на ўздым нацыянальнай свядомасці беларусаў. І хаця гэтыя гады ў параўнанні з перыядам руска-японскай вайны мелі застойны характар, то ўсё-такі мелі акрэсленае значэнне.

І толькі выбух сусветнай вайны і нямецкая акупацыя Беларусі ў 1915 годзе стварылі больш спрыяльныя ўмовы для развіцця нацыянальных імкненняў беларусаў.

Немцы, акружаныя амаль што з усіх бакоў, ужывалі розных спосабаў для паслаблення сваіх ворагаў. Стараліся яны знішчыць еднасць Расіі, падтрымліваючы сепаратысцкія і рэвалюцыйныя імкненні паасобных нацыянальнасцей і партый, якія знаходзіліся пад рускім скіпетрам. З гэтай прычыны пачалі яны падтрымліваць (зразумела, на столькі, на колькі гэта было згодным з іх уласным інтарэсам) развіццё літоўскай, беларускай і ўкраінскай нацыянальнасцей.

З мэтай зацікаўлення і актывізацыі беларускіх мас, беларускія дзеячы, карыстаючыся дапамогай нямецкіх акупацыйных улад, стараліся ствараць беларускае школьніцтва.

Трэба было ім перамагчы многія цяжкасці, звязаныя, між іншым, з мовай. Справа ў тым, што тагачасная беларуская мова не абапіралася на граматыцы, якой дагэтуль не было. Слоўнікавы гутаркавы фонд быў вельмі ўбогі і не меў тэрмінаў на акрэсленне многіх паняццяў, якімі паслугоўваліся больш развітыя асобы. Зразумела, што нельга было весці выкладанне на мове, якая не мела самай элементарнай спецыялістычнай і тэхнічнай тэрміналогіі. Вялікая цяжкасць была звязана з недахопам адукаваных людзей, якія змаглі б весці выкладанне па-беларуску.

Аднак энергія беларускіх людзей перамагла цяжкасці, якія выступалі на шляху да акрэсленых мэт. Недаразвітасць беларускай мовы, недахоп граматыкі, тэрміналогіі былі абыдзены дзякуючы таму, што пачаткова выкладанне вялося на рускай мове. Другая перашкода, на якую складаўся недахоп беларускіх настаўнікаў, была ліквідавана дзякуючы выкарыстоўванню настаўнікаў былых рускіх школ. У такой сітуацыі беларускае школьніцтва існавала не як рэчаіснасць, а толькі як мэта на будучыню. Хутка настаўнікі, апанаваўшы беларускую мову, пачалі яе ўводзіць у школы. Пры дапамозе акупацыйных улад было створана некалькі гімназій і некалькі сотень пачатковых школ. Пазней нямецкія ўлады фінансавалі і падтрымлівалі распаўсюджванне беларускай прэсы і інспіравалі заядлую антыпольскую прапаганду, якой закулісна кіравалі нямецкія вайсковыя спецыялісты.

Для поўнага зразумення далейшага развіцця беларускага руху трэба ўсведаміць сабе тыя сілы, якія яго інспіравалі, кіравалі і фінансавалі, і якія былі прычынай таго, што беларускі рух, які быў створаны палякамі, пражываючымі ў Беларусі, вырваўся з-пад іх уплыву, і ў выніку абярнуўся супраць Польшчы.

*(Працяг будзе)*

# КЛОПАТ У НАРАЎЦЫ

**(Працяг са стар. 1)**

У Нараўчанскай школе пяць аддзелаў навучання беларускай мовы: другія класы, трэція, пятыя, шостыя разам з сёмымі, восьмыя. У чацвёртых класах ніводнае дзіця беларускай мовы не вывучае. Урокі беларускай мовы праводзяцца тры разы ў тыдзень. Такім чынам агульны лік урокаў беларускай мовы ў тыдзень — 15. Нават на запаўненне аднаго настаўніцкага штату замала. Сітуацыя, як мне здаецца, больш-менш тыповая для навучання беларускай мовы на Беласточчыне.

Нічога дзіўнага, што пры такіх абставінах дырэктары школ маюць немалы клопат з утрыманнем навучання беларускай мовы. Справа тут не ў настаўніках. Яны ёсць, маюць адпаведную кваліфікацыю, маюць сэрца да роднай мовы. І гэта дзякуючы толькі ім беларуская мова яшчэ трывае на Беласточчыне, яшчэ цепліцца надзея, што яна не загіне без следу і не застанецца адно ў кніжках, а і ў чалавечых душах. Засцярогі наконт навучання беларускай мовы маюць бацькі. Навошта яна патрэбная нашым дзецям, калі яна нідзе непрыгодная? Якая карысць ад яе? Дзеці і так стомленыя перагружанай школьнай праграмай, а тут яшчэ тры дадатковыя ўрокі. Нельга адмовіць рацыі такім разважанням. Практычнай рацыі. Яно то было б лягчэй, калі б у дзяцей аднялі некалькі ўрокаў. Было б больш вольнага часу. Але ці пры такой сістэме школьніцтва сапраўды было б больш эфектыўнага вольнага часу? Мясцовым дзецям, мабыць, так. А тым, што даязджаюць у школу аўтобусам? Хутчэй за ўсё — не. Яны і так чакалі б свайго тэрміну, калі заедзе па іх аўтобус.

Я не кранаю самага істотнага моманту ва ўсёй гэтай справе: духоўнага. І маральнага. Аб ім гаварыў перад бацькамі на сходзе старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі. Што застанецца тут па нас, калі нашы дзеці не будуць ведаць свае мовы, калі стануць духоўна чужымі для сваіх бацькоў? Ці не ворагамі нашымі яны стануць?

Перад бацькамі выступіў і Віктар Стахвюк, гаворачы аб патрэбе нармальнасці ў польска-беларускім сужыцці на Беласточчыне, аб адміністрацыйным замацаванні двухмоўя ў нашым рэгіёне.

Адно мне бачыцца выразна: мы не даб'емся значных поспехаў у вырашэнні якой-колечы беларускай праблемы на Беласточчыне, калі будзем выходзіць да людзей толькі з культурна-асветніцкімі пастулатамі. Справу трэба вырашаць перш за ўсё на гаспадарчым узроўні. Гэта — аснова. Эканамічная наша беднасць вядзе і да духоўнай беднасці. Таму і шлях наш павінен весці ўсё далей у гаспадарча-палітычнае жыццё рэгіёна, у стварэнне гаспадарчай асновы ўсяе нашае беларускае актыўнасці тут на Беласточчыне. Патрэбна нам свая, беларуская, палітыка. Хай сабе і рэгіянальная, гмінная. Большай нам не трэба.

Ці зможам мець сваю палітыку, скажам, у Нараўчанскай гміне?

**Ян Максімюк**

многім вызначала ў першай кнізе стыль празаіка — паэтычна задуменнага, рэфлексійнага, сканцэнтраванага на духоўна глыбінных праявах жыцця, схільнага да інверсійнай стылістыкі, якая выяўляла танальнасць твора. Зрэшты, гэтых якасцей празаік не растраціў і ў пазнейшы час.

У беларускай літаратуры С. Яновічу блізкі Кузьма Чорны, у прыватнасці раннія яго раманы, і асабліва Максім Гарэцкі з яго няўтомным пошукам інтэлектуальных каштоўнасцей у народным жыцці.

У працэсе развіцця С. Яновіч змяняўся, узбагачаўся як мастак. Так, у кнізе „Сярэбраны яздок“ (1978) выявілася здольнасць перадаваць дынамічны рух жыцця, прасочваць вострую падзейную інтрыгу, якая мае ў творы гістарычны грунт. У „Сцяне“ (1979) розныя канцэпцыі жыцця раскрыліся праз напружаную палеміку, падсветленую горкай аўтарскай іроніяй. Нават з самім сабою, з уласным другім „я“ вядзе герой няспынную спрэчку, шукаючы адказ на пытанне, як жа сёння жыць. Гэта надае твору выразную крытычна-публіцыстычную асаблівасць. Зрэшты, у прозе С. Яновіча быў адчувальны суб'ектыўна-аўтарскі падыход да жыцця — то паэтычны, то, пазней, гумарыстычна-іранічны, то па-грамадзянску суровы і заўсёды крыху павучальна мудры. Апошнім часам гэтая скіраванасць творчасці набывае як бы прапаведніцкі і разам з тым гарачы публіцыстычны характар і выліваецца ў шматлікіх дыскусійных артыкулах у перыёдыцы. Адчувальная яна і ў замежных рэпартажах, дзе шмат месца займае патрыятычная і філасофская рэфлексія. І вось кніга „Беларусь, Беларусь“ (1987), у якой — своеасаблівы сплаў гісторыка-літаратурнага даследавання, эсэ, мемуараў, публіцыстычнай палемікі на тэмы роднага краю і яго духоўнага лёсу на шляхах гістарычнага ўзаемадзеяння з Польшчаю.

Вельмі шматмерная сёння гэтая постаць — Сакрат Яновіч, і не можа не ўражваць сілаю свайго мастацкага духу.

Імкненне да творчасці на роднай ніве характэрнае для беларускай інтэлігенцыі ў Польшчы. Творчая, як і грамадска-патрыятычная работа — важны спосаб нацыянальнага самавыяўлення і самасцвярджэння. Не выпадкова многа людзей ідуць тут у літаратуру, хаця нямала і сыходзяць з літаратурнай сцяжыны. Шмат гадоў ужо годна, хораша трымаюцца гэтай сцяжыны Алесь Свісёк, Дзмітры Шатыловіч, Міра Лукша, Юрка Зубрыцкі, Леапольд Танкевіч. Некаторыя літаратары выдалі свае кнігі і пакінулі прыкметны след на родных мастацкіх палетках. Гэта Станіслаў Вагурка, Яша Бурш, Уладзімір Гайдук, Юрка Геніюш, Ірына Баравік, Зося Сачко. Такое пералічэнне само па сабе ўжо цешыць, і дзякаваць Богу, што літаратурнае аб'яднанне не слабее, а жыве — людзі пішуць, з'яўляюцца новыя маладыя імёны.

Добрую творчую актыўнасць праяўляе сёння Зося Сачко, аўтар зборніка вершаў „Пошукі“ (1982). Яе паэзія звяртае на сябе ўвагу найперш моваю — літаратурна не апрацаванаю, дыялектнаю. Для дасведчанага чытача і спецыяліста гэта — адхіленне ад нормы славеснага мастацтва. Але ж мастацтва і заклікана разбураць нормы, абнаўляць жыццё і, у прыватнасці, чытацкія густы і прынцыпы. Што датычыць З. Сачко, то трэба, відаць, глядзець, ці пасуе ёй як паэтэсе дыялектнае слова. Думаю, што такое слова ў З. Сачко, у яе свабодных, не скаваных акадэмічна-кніжнымі правіламі маналогах гучыць паэтычна, у сваёй народнай першароднасці. Больш таго, яно нясе пэўны эфект эстэтычнай нечаканасці, асабліва, калі ўлічыць, што З. Сачко — паэтэса, якая жыве найбольш развагаю. Але развагі яе па-жаночаму мудрыя і сардэчныя, скіраваныя да такіх цэнтраў жыцця, як поле, дзіця, песня. І мясцовае слова ў яе вершах нейтралізуе паэтычныя абстракцыі, своеасабліва апрадмечвае кругагляд і саграе сваім хатнім цяплом.

Атрымаў ужо ў Беларусі добры розгалас пераклад на нашую мову рамана вядомага ірландскага пісьменніка Джойса „Уліс“, які зрабіў Ян Максімюк. Чалавек па-мастацку апантаны, улюбёны ў сваю справу, ён шмат абяцае як перакладчык на глебе роднай літаратуры.

Шмат цікавага ў вершах Юркі Баены, паэта, што набывае сваё мастацкае аблічча, у творах Алены Анішэўскай, Андрэя Сцепанюка, Яніны Шостак.

А якія ж недахопы, страты ў творчай практыцы маіх дарагіх і такіх блізкіх (усяго праз дзяржаўную мяжу) калег — „белавежцаў“? Думаю, што недахопы гэтыя цесна звязаны з мастацкімі заваёвамі пісьменнікаў, як гэта ні парадаксальна. Калі гаварыць агулам, то горшае — пэўная літаратурнасць творчасці, абумоўленая нязменным імкненнем да наватарства, да засваення найбольш аўтарытэтных, часам элітарных здабыткаў літаратуры XX ст. Аднак засваенне не заўсёды набывае ў іх творчы характар, не заўсёды арганічнае для той ці іншай мастацкай індывідуальнасці. Хаця на гэтым напрамку ёсць у „белавежцаў“ бясспрэчныя поспехі. Поспехі тым больш прыкметныя, што яны — беларускія пісьменнікі ў Польшчы — жывуць вялікімі ідэямі свайго народа, трывала стаяць на грунце народнага жыцця.

*Ганарар аўтар пералічвае ў фонд пабудовы беларускага музея ў Гайнаўцы.*

„Ніва“
18.II.1990 г.

# Госць з гумарам

Яўген Бароўскі — пісьменнік, эстрадны драматург і музыкант-прафесіяналіст з'явіўся ў нас на Беласточчыне вельмі неспадзявана, але так эфектна, што адразу заваяваў сэрцы людзей. Але раней, чым даехаць у Беласток, амаль проста з поезда, у Варшаве трапіў на навагодні (па старому стылю) баль, які адбываўся ў шчодры вечар у варшаўскім палацы культуры.

На балі было шмат людзей, гралі „Дубіны", але, як аказалася, быў адзін недахоп. Арганізатары не прадбачылі Дзеда Мароза. А ён — сам прыйшоў. Яўген Бароўскі на ўсялякі выпадак прыхапіў быў з дому свой уласны дзедамарозаўскі ўбор. І вось ён на балі. Калі прыйшоў Дзед Мароз, адразу зала ажывілася. Пачаліся выбары спачатку найпрыгажэйшай снягурачкі, потым, разахвочаныя, выбралі яшчэ сярод дзяўчат прыгажуню — ёлачку. Паставілі яе на стол, упрыгожылі цацкамі, ды выбралі яшчэ ёлачцы ў кампанію зайчыка ды мядзведзя. Гулялі разам карагод. Спадабаліся там госцю і нашы „Дубіны". Нават Андрэя Расевіча, жывога, тут пабачыў і паслухаў.

І вось госць з Беларусі ўжо сярод нас. Як жа было не запрасіць аўтара столькіх сатырычных вясёлых тэкстаў на сустрэчу з вучнямі? Сустрэча такая вельмі паспяхова прайшла ў Бельскім доме культуры спачатку з моладдзю, а потым са старэйшымі.

Госцю з Беларусі ўсё тут цікава. Ён выказаў ахвоту пабываць у беларускай вёсцы. Паехалі ў Крывую. Там трапілі на школьную ёлку. І тут госць стаў Дзедам Марозам. А малым колькі было радасці — падарункі дзецям раздаваў сапраўдны далёкі госць. На ёлку вучні падрыхтавалі багаты канцэрт. Прыгожа спявалі па-беларуску і па-польску, дэкламавалі вершы, танцавалі. Госць — музыкант быў вельмі здзіўлены, што наогул магчыма арганізаваць такую ўрачыстасць без акампаніятара. На жаль, у нас — гэта з'ява штодзённая. Большасць вясковых школ працуе без настаўнікаў-спецыялістаў па музыцы. Нярэдка ж нашыя здольныя дзеці нават у конкурсах беларускай песні спяваюць без акампанемента толькі таму, што няма каму гэта рабіць.

Госць наш, шчыры і ахвотны дапамагаць людзям, адразу ж пачаў разважаць з сакратаром нашага таварыства Віктарам Стахвюком справу, як маглі б дапамагчы ў гэтай справе спецыялісты з Беларусі. У размове з'явіліся ўжо нейкія першыя планы. Аб тым, што з гэтага выйдзе, напішам пры нагодзе. А трэба ж дадаць, што Яўген Бароўскі — выпускнік беларускай кансерваторыі па класу баяна і выкладчык музычнага вучылішча — ведае, як гэта найлепш было б зрабіць.



Яўген Бароўскі са сцэны ў клубе БГКТ чытае свае сатырычныя вершы.

Наступны дзень пабыўкі госця на Беласточчыне быў яшчэ больш інтэнсіўны. Разам з харавымі калектывамі з Беластока і Рыбалаў госць выступіў у канцэрце для жыхароў дома пенсіянераў у Чарэўках, а вечарам — у доме культуры ў Рыбалах. Гаваркі і прылюдны госць і тут зачараваў слухачоў. Ён чытаў свае творы, у дуэце са Сцяпа-

## Як дзядзька Шчасновіч „Ніву" даставаў

Пайшоў дзядзька Шчасновіч у мінулым годзе на пошту ў Бабіках падпісацца на „Ніву". На першы квартал 1990 года. Там яму сказалі, што трэба будзе даплачваць 100 зл. лістаношу за пастаўку кожнага экземпляра тыднёвіка. Падумаў дзядзька так: „У кіёску буду лепш купляць, танней будзе". Пайшоў у кіёск зрабіць заказ на „Ніву" і „Хлопску дрогу", але прадаўшчыца сказала, што кіёск будзе ліквідаваны...

Усё ж хацеў дзядзька Шчасновіч дастаць „Ніву". „Залажу тэчку ў кіёску ў Саколцы", — падумаў. Пагаварыў са знаёмай прадаўшчыцай у кіёску пры станцыі ПКС. Прынёс сваю падпісаную папку на газеты.

Каштавала „Ніва" тады 200, пасля 250, 400, а цяпер 600 злотых. Значыць, трохі дзядзька Шчасновіч стратны — скупы два разы плаціць!

Цяпер „Ніва" ёсць і ў Бабіках — кіёск усё ж не ліквідавалі, але з Саколкі „Ніву" прывозіць дзядзьку Шчасновічу ткач Шчасновіч, які штодзень бывае ў Шчасновічах.

(лук)

## Язэп Пілсудскі ў Менску

(ПАВОДЛЕ БЕЛАРУСКАЙ ГАЗЕТЫ „ЗВОН")

Заканчэнне

Не паскупіўся на словы і старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта Аляксандр Прушынскі (Алесь Гарун), вітаючы Начальніка 18 верасня 1919 г. у Мінску:

*„Пане Начальніку Дзяржавы Польскай!*

*Мінае ўжо шосты тыдзень, як мы, тубыльцы гэтага места, слаўнага сэрца Беларусі, — Менску жывем спакойным жыццём.*

*Развеяўся той чырвоны туман, каторы вісеў над намі гэтта доўгія месяцы не даючы ні адатхнуць, ні зірнуць на ясны свет спакойнымі вачыма. Развеялася відмо галоднай смерці...*

*Цуд гэты ёсць дзелам і заслугаю гераічнага польскага войска, каторага Вы ёсць Начальнікам і каторае, не шкадуючы ні сілаў, ні ахвяраў вырушыла сюды, адлажыўшы на час творчую працу над адбудаваннем свае Бацькаўшчыны, за яе рубяжы, нясучы нам братнюю дапамогу.*

*От жа, вітаючы Вас, як Начальніка гэтага гераічнага войска і як чалавека, шмат і сваёй сілы і добрай ахвоты палажыўшага ў гэтую справу, ад імені нашых беларускіх дэлегатаў, прадстаўляючых тутака беларускае насяленне, высылаўляю гарачую падзяку за звальненне Менску і Меншчыны ад новага цяжкага нападу маскоўскага імперыялізму, каторы на гэты раз прыўбраўся ў бальшавіцкую вопратку.*

*Вольна і спакойна жывем мы сягоння і нават маем радасць, што бачым Вас, Пане Начальніку... Але гаворачы словамі вешчага Баяна нашага, плачуць яшчэ маткі ў Віцебску, стогнуць людзі ў Магілёве; маўчыць, бо забаронены, хаўтурны голас аб'імшэлых званіцаў Смаленску, адкуль кожны дзень прыходзяць весткі аб новых і нявінных ахвярах. Сэрцы нашыя радуючыся за нашае аслабленне, не могуць быць спакойнымі за іхнюю долю. Тутака чуем мы іхніе галасы аб помачы. Але мы слабые, сілы не маем і нічым, акром болю ў душы за іх і сціснутых ад гневу кулакоў дапамагчы ім не можам.*

*Аднак жа мы пэўны, што страшная мара развеецца і над імі і да гэтага рады і гатовы далажыць усіх сваіх сілаў, аддаць і свае ахвяры. Бо няма тых ахвяр, няма тых скарбаў, таго дабра, каторых сыны Беларусі і не згадзіліся б аддаць за волю і шчасце сваёй Бацькаўшчыны.*

*Яшчэ хачу сказаць Вам, Пане Камэндanце: мы верым і спадзяемся, што разам з вольнымі Менскам, Вільняй і сівым Горадням вольнымі і шчаслівымі будуць у вольнай і незалежнай Беларускай Рэспубліцы нашые адвечные астрогі на рубяжах Масквы, — Віцебск і Магілёў, і стары Смаленск. Гэтага мы спадзяемся, у гэта мы верым, а гэтымі верай і надзеяй абдараваў нас братні народ, каторага Слаўнаму Прадстаўніку гатовы мы сказаць на Меншчыне не толькі нашае сягонняшняе „дзякуй", але і заўсёды: „Здароў будзь, прыходзь да нас госцю мілы, суседзе дарагі".*

Пра прыезд Пілсудскага ў сталіцу Беларусі інфармаваў купалаўскі „Звон" ужо ў 11 нумары ад 17 верасня 1919 г. У публікацыі „Прыезд у Менск Начальніка Польскай Дзяржавы", між іншым, так пісалася ў

нам Копам іграў на баяне, гаварыў аб уражаннях, якія зрабіла на ім Беласточчына, дзівіўся, як тут звычайныя людзі ведаюць столькі моваў — і беларускую, і рускую, і польскую, і нават украінскую. Хваліў дзяцей за навучанне роднай мовы. Пазнаёміўся таксама з рыбалаўскім бацюшкам Рыгорам Сасной, сябрам і нашай рэдакцыі. І добрае ўражанне з гэтага знаёмства, як здаецца, было ўзаемнае.

Гасцінныя жыхары Рыбалаў запрасілі госця і беластаччан на багатую вячэру. І варта ведаць: хто не пабудзе на такой вячэры ў нашай вёсцы, той не можа сказаць з чыстым сэрцам, што пазнаў яе. Такая гасціна — гэта не проста вячэра, гэта традыцыя прымаць гасцей чым хата багата, гэта адкрытыя сэрцы, шчырасць і, перш за ўсё, праява лірычнай, спеўнай душы народа. Без супольных спеваў (а тут жа былі два мастацкія калектывы са шматгадовым стажам) не можна і ўявіць такой гасціны. Гэта ўжо яе рытуал і яе радасць.

У Беластоку Яўген Бароўскі стаў атракцыяй вечара ў другой сустрэчы з беларускай песняй, якая адбылася 21 студзеня.

І ў рэдакцыі пабываў наш госць. Для яго роднае беларускае слова — справа надзённая, натуральная. А „Ніву“ чытае, і падабаецца яму наш беластоцкі просты і шчыры народ, і хоча госць ведаць, як і чым мы жывем у нашай Польшчы. Абяцаў Яўген Бароўскі дасылаць нам свае ўласныя творы. Вельмі чакаем. Бо чулі яго выступленні на канцэртах. І хацелася б чытаць падобныя на старонках „Нівы“. Чакаем госця зноў у нас. І маем надзею, што хутка сустрэнемся.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара

# Беларускі каляндар

**(Працяг са стар. 1)**
1919—1939“ дае комплексны і падрабязны аналіз суадносін царква—дзяржава ў даваеннай Польшчы. Даследчык выразна і пераканаўча праводзіць думку, што Праваслаўная царква ў даваеннай Рэчыпаспалітай была эфектыўным інструментам паланізатарскай палітыкі ўлад у адносінах да праваслаўных украінцаў і беларусаў. Якраз на тэрыторыях этнічна беларускіх палітыка гэтая дасягнула значных, на жаль, поспехаў. Тэкст М. Давідзюка выключна важны. Ён, несумненна, павінен увайсці ў канон нашай гістарычнай адукацыі, асабліва цяпер і тут, на Беласточчыне.

„Па жыццёвых сцежках“ — так назваў свае ўспаміны Кастусь Сідаровіч. Жыццё ў Беластоку пры царскай уладзе, I сусветная вайна, бежанства, пачаткі беларускага палітычнага руху на Беласточчыне, з'езд „Грамады“ ў Беластоку, яе разгром, дзейнасць гуртка Таварыства беларускай школы ў Беластоку, — усё гэта ўбачана вачыма сведкі і ўдзельніка.

Даследчыца з Гданьска Крыстына Гамулка выступае на старонках „Календара“ з артыкулам „Адносіны польскіх палітычных груповак да беларускага руху ў 1918—1922 г.г.“ (тэкст на польскай мове). У згушчанай форме аўтарка прадстаўляе агляд беларускага палітычнага пытання ў перыяд фармавання польскай дзяржавы, яе ўсходніх межаў.

Тэма беларускай эміграцыі раней амаль не існавала на старонках „Календара“. Артыкул Алега Латышонка „Беларуская эміграцыя“ з'яўляецца першай спробай асвятлення эміграцыйнага пытання ў агульным абрысе. Пасля ахарактарызавання асноўных хваляў беларускай эміграцыі на Захад, аўтар дае кароткі агляд цэнтраў эміграцыі ў ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі, Аўстраліі і Аргенціне.

Гістарычная частка календара замыкаецца разглядам публікацыяў па беларускіх пытаннях у польскай прэсе і перыядычных выданнях ў 1987—1988 г.г. Падборку цытатаў зрабіў Б. Сіманенка.

У літаратурнай частцы змешчаны артыкул Сяргея Чыгрына пра паэму „Адвечная песня“ Янкі Купалы і, традыцыйна ўжо, творы нашых „белавежцаў“: Віктара Шведа, Васіля Петручука, Дзмітрыя Шатыловіча, Сакрата Яновіча ды Яўгена Гучка з Мінска. Са сцэнічнай апрацоўкай казкі Уладзіміра Ягоўдзіка выступае Янка Мордань.

„Беларускі каляндар 1990“ закрываецца прыродна-геаграфічнымі занатоўкамі Б. Рудкоўскіна і ўзорамі беларускай народнай вышыўкі на вопратцы, якую адшукала ў бабулінай скрыні Марыля Базылюк.

Цікавы сёлетні наш каляндар ці не? Меркаваць чытачу. Несумненна — адметны. Перавага гістарычных тэкстаў і непрысутнасць матэрыялаў пра вёску можа пахіснуць ранейшых прыхільнікаў календара і абмежаваць кола яго чытачоў. Традыцыйныя прывычкі чытачоў адыгрываюць вялікую ролю ў рэдагаванні штогадовых выпускаў календара БГКТ. Яўген Міранові пайшоў як бы крыху ў бок ад гэтай традыцыі. Ці з карысцю для справы? Пабачым.

**Ян Максімюк**

# З ДРУКУ

## НЕЛЬГА НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЯЎ ПАКІНУЦЬ ЗБОКУ

Аб шанцах нацыянальных меншасцяў у выбарах у органы тэрытарыяльнай самаўправы гаварылася 31 студзеня на пасяджэнні сеймавай Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцяў. Сенатар Лех Казёл прадставіў Камісіі апрацаваны Сенатам праект палажэння аб выбарах у гмінныя органы. Сказаў ён, што Сенат, выбіраючы большасную сістэму, якая не гарантуе „зверху“ дэпутацкіх мандатаў для прадстаўнікоў меншасцяў, кіраваўся перакананнем, што іншае вырашэнне ўзмоцніла б нацыянальныя канфлікты.

У спрэчках выявілася сярод паслоў два пункты гледжання. Адзін прызнае, што ў выбарах павінны выйграць найлепшыя, нягледзячы на нацыянальнасць, другі — напраўлены на забеспячэнне нацыянальным меншасцям мандатаў у гмінныя рады шляхам стварэння нацыянальных спіскаў і прапарцыянальнай сістэмы выбараў. На думку паслоў, кожны з гэтых шляхоў мае свае вартасці і заганы. Большасная выбарчая сістэма — гэта небяспека, што значная частка грамадзян у гмінах, населеных нацыянальнымі меншасцямі, не будзе мець сваіх прадстаўнікоў у радах. Прапарцыянальная сістэма пагражае нацыянальным расколам мясцовай грамадскасці. Паслы лічаць, што самаўправа павінна быць супольнасцю інтарэсаў і прадстаўляць усю грамадскасць. Таму пакінуць збоку якую-небудзь нацыянальную групу было б палітычнай памылкай. (ПАП)

ім: „Прывет табе, Начальніку Польскай Дзяржавы, на тваёй роднай зямельцы — Беларусі!“.

У наступным 12 нумары „Звону“ ад 19 верасня 1919 г. на першай старонцы паявіўся вялікі артыкул пра спадзяванні беларусаў у сувязі з прыездам у Мінск каменданта — „Досьвідкі п. Я. Пілсудскага“. Невядомы аўтар так выказваў свае думкі: „Польшча мела вялікіх людзей. Яны прагаласілі ў цёмнай няволі свой лозунг „За нашу і вашу вольнасць“ і йшлі за яго на пэўную смерць. Мы добра ведаем, што і Касьцюшку, і Міцкевіча, і паўстанцаў — адным словам, увесь польскі рамантызм, усю яе хвалу паміж народамі дала Польшчы Беларуская Зямля. На Беларускай зямлі вырас і Пілсудскі. Там, недзе на далёкім захадзе, у ціхім дварку, абкружаным беларускімі вёскамі, ён радзіўся, а ў нашай Вільні — гэтай калысцы беларускай самабытнасці — вырас. Тое, што зрабіў Пілсудскі для Польшчы, ставіць яго імя разам з успомненымі людзьмі, што выгадаваліся на беларускай зямліцы на хвалу Польшчы. Але мы спадзяемся, што для Беларусі імя Пілсудскага будзе яшчэ больш значным і слаўным. (...) Пілсудскі мусіць дапамагчы нам прыняўшы праграму Беларускай дзяржаўнасці. А калі ён прыме яе, дык мы пэўны ў гэтым — і споўніць. Бо калі б яму гэта не ўдалося, дык хіба не ўдалося б і нікому іншаму.

Вось дзеля чаго беларусы ўжо не раз зазначалі сваю асаблівую веру і надзею на Пілсудскага“.

„Хвіліна для Беларусі паважная, — працягваў аўтар. — Свядомые гэтай павагі, мы разам з усімі радасна вітаем нашага вялікага земляка ў сэрцы зямлі Беларускай, прастарым Менску. Мы хочам верыць, што ён, гэты рыцар з Захаду, не па тое завуладаў сэрцам Беларусі, каб яе скрыўдзіць, але каб падняць з заняпаду зачараваную княжну ў сялянскіх шатах, каб вярнуць ёй адвечны пасад яе, каб памагчы ўтварэнню незалежнай і непадзельнай Беларусі!“.

19 верасня 1919 г., на другі дзень пасля прывітання яго Алесем Гаруном, Пілсудскі а першай гадзіне выступіў у Шляхецкім Доме з наступнай прамовай на беларускай мове:

*„Шчыра дзякую за выказаные мне, як Галаве Польскага Войска і Польскай Дзяржавы, прывітанні. Як сын гэтае зямлі, я добра ведаю гаротнае палажэнне яе, якое было заўсёды доляю яе насялення. Дзяды нашыя не бачылі ніколі нічога лепшага за гвалт, мукі і злачынствы. Кожнага жыхара гэтай зямлі прымушалі прызнаваць тое, што яму гвалтоўна дыктавалі. Радзіліся людзі ў няволі, радзіліся няевольнікамі і не маглі дыхнуць вольна, як іншыя людзі. Надыйшла гэтая вялікая вайна, вялікая хваля разрухі. Яна пракацілася па гэтай зямлі ад краю ў край і на працягу пяці гадоў тутака гуляў самы злосны гвалт над душамі і сэрцамі жыхароў. Усе мары, усе ідэалы, усё лепшае забівалася ў душах людзей, або пакаралася таму, чаго вымагалі гвалтоўнікі. Польскае войска, якім я маю гонар камандаваць, усюды нясе вызваленне і свабоду. Польшча йдзе на акраіны не дзеля таго, каб навязваці сваю волю. Я выдаў адозву, падцверджаную вышэйшаю ўладаю — Польскім Соймам, што гэтай зямлі ніхто і нічога гвалтам накідаць не будзе, яна будзе вольнаю і само насяленне вырашыць формы свайго палітычнага быту.*

*Я даў слова і трымаюся яго моцна. Насяленне будзе паклікана да выбараў органаў мясцовага самаўпраўлення, затым надыйдзе час, калі вы зможаце выказаць свае думкі і пажаданні аб дзяржаўным ладзе. І ў першым і другім выпадку дана будзе поўная свабода, без усялякіх рэлігійных, нацыянальных, або класавых абмежаванняў. Я буду гардзіцца Польшчаю, польскім войскам і самым сабою, калі змагу даць гэтай зямлі найвышэйшы дар, з якога яна столькі часу не карыстала, — дар свабоды. Жадаю вам поўнага усьпеху ў працы, якая, у атмасферы поўнае свабоды, з'яднае ўсіх. Пакуль я буду камандаваць польскім войскам — я гарантую вам дакляраваную свабоду. Я веру і спадзяюся, што гэтая зямля, як асобная адзінка, займе належнае месцо ў сусветным ліку дзяржаўных народаў“.*

Пасля сустрэчы ў Шляхецкім Доме Пілсудскі прыняў удзел у канцэрце беларускага хору, якім кіраваў Цяраўскі, у мінскім гарадскім тэатры. Як пісаў невядомы аўтар у 14 нумары газеты „Звон“: „Урачысты вечар 19 верасьня быў поўным трыумфам нашага вядомага хору. Зала тэатру гарэла морам кветак і гучэла громам апладысментаў, таксама і тады, калі на заканчэнне пачуўся магутны гімн „Краіну родную...“.

Пілсудскі пакінуў Мінск у гэты ж· дзень а 12 гадзіне ночы, ахвяраваўшы на карысць бедных беларускай сталіцы 2500 марак. Прайшоў час „трыумфу“, настала суровая рэчаіснасць. А замест абяцанай свабоды былую Заходнюю Беларусь на доўгія гады спавіў белы туман...

**Юрка Трачук**

# Зорка
## Старонка для дзяцей





*Прадстаўнікі інструментальнай часткі калектыву „Зярняткі“ з Пашкоўшчыны: Ірэней Мурашка, Пётр Залеўскі і Юрка Таранта.*

# Карнавальныя гульні

27 студзеня ў будынку Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства адбыліся карнавальныя гульні для дзяцей.

Праграма гульняў аказалася вельмі багатай:

Усё пачалося ад вялікага канцэрта. Прывітаў прысутных вакальна-інструментальны калектыў „Зярняткі“ са школы ў Пашкоўшчыне. Гэта ўжо вельмі добры сучасны дзіцячы рок-гурт. Хоць дзеці ў ім змяняюцца — старэйшыя адыходзяць, а ў калектыў прыходзяць зусім малыя, — калектыў нязменна ўтрымоўвае сваю добрую форму. А існуе ён ужо тры гады. Нават за граніцай ужо пабывалі. Мелі турнэ па Беларусі. Вядзе калектыў настаўнік беларускай мовы і дырэктар школы ў Пашкоўшчыне Янка Добаш. У гэтым канцэрце калектыў выступіў з трыма беларускімі песнямі (трэба ж даць і іншым магчымасць выступіць): „Беларусь“, „Родны мой горад“ і „Беларуская танцавальная“. У другой палове гульняў гэты ж калектыў падыгрываў дзецям да танцаў.

У канцэрце выступілі таксама два школьныя тэатры. Першы — з бельскай „Тройкі“. Настаўніца Ларыса Бурыла, якая вядзе гэты школьны тэатр, прывезла з дзецьмі спектакль „Гномікі“, пастаўлены на матывах казкі Марыі Канапніцкай. Пастаноўка зроблена з вялікім размахам. Шмат дзеючых асоб, і ўсе ў казачна каляровых і цікавых касцюмах. Цудоўна выглядалі гномікі, птушачкі, летапісец, кароль і каралеўская стража. Дзеці добра выконвалі свае ролі, а кароль чхаў так заразліва, што гледачам свярбелі ўласныя насы.

(Працяг на стар. 10)



*Фрагмент пастаноўкі „Гномікі“ ў выкананні тэатра з падставовай школы № 3 у Бельску.*

## Вершы Віктара Шведа

### НАТАША НЕ ЛЮБІЦЬ КАШЫ

Мама раніцай будзіла
Снедаць сонную Наташу.
— А што, мама, ты зварыла?
— Манную, дачуся, кашу.

— Вочкі зноў мае заснулі, —
Адазвалася Наталька. —
За мяне хай з'есць, матуля,
Сёння кашу мая лялька.

### САБАКА КОЛЬКУ ПАНЮХАЕ ТОЛЬКІ

— Не бойся! — Мамуся
Суцяшае Кольку. —
Сабака не ўкусіць,
Панюхае толькі.

Не хоча паверыць
Хлопец напужаны.
— Ён жа зубы шчэрыць,
А я ж не духмяны.

### КАРМІЛІ ЭМІЛЮ

— За татульку кашкі лыжку,
А другую за матулю,
І за дзедку яшчэ крышку,
А таксама за бабулю.

Знервавалася Эміля
І пытае сваю маму:
— Ці не можаце хоць хвілю
Вы цяпер паесці самі?

### ТАТКА ХАРОШЫ, ДАЙ ГРОШЫ

Толькі што прыйшоў з работы
А яго ўжо просіць Каця:
— Дай, татулька, пяцьсот
злотых,
— Ды не трэба грошай траціць!

Знервавалася і гэтак
Таце Каця адказала:
— Хочуць мець заўсёды дзетак,
Ды каб ім не каштавала.

### Я, ТАТА, БУДУ ПІРАТАМ

Чытае хлопец кніжку,
Аж з чырванню на твары.
А неўзабаве Мішка
Над зместам кніжкі марыць.

— Буду калісь піратам, —
Сказаў ён нечакана.
— Ды толькі, — сцвердзіў
тата, —
Як будзеш паслухмяны!

### ДАКЛАДНЫ АДРАС

— Дзе ты жывеш, Сярожа?
— Навошта табе ведаць?
— Запытаю, бо можа
Я да цябе прыеду.

— Жыву я ля бальніцы.
— Не ведаю, дзе гэта.
— Мой дом пад чарапіцай
Карычневага цвету.

### ПАРВАЛІСЯ МАТУЛІ ПЛЕЧЫ

Матуля загарае
У доме адпачынку.
За ёю пазірае
Маленькая дзяўчынка.

— Мы пойдзем у бальніцу,
Няхай цябе палечаць.
Парваліся ўжо быццам
Твае, матуля, плечы.

### ЯК НАКРУЧВАЛІ МАТУЛЮ?

Сёння Ніны іменіны,
Атрымала ляльку зранку.
Як завесці ёй спружыну, —
Заспявае калыханку.

— Калі ты была дзіцяткам,
Я табе спявала „люлі“.
— Застаецца ўсё ж загадкай:
Як накручвалі матулю?

# Карнавальныя гульні

(Прапяг са стар. 9)

Тэатр са школы № 3 у Гайнаўцы прывёз пастаноўку „Свавольныя зайчаняты“. П'еска гэта не так даўно друкавалася ў „Зорцы“, і вельмі прыемна рэдакцыі, што школы выкарыстоўваюць „Зорчын“ рэпертуар. Настаўніца і апякун тэатра Валянціна Дзмітрук з вялікім знаўствам падыйшла да пастаноўкі. Гледачоў задзівілі, як на магчымасці школьнага тэатра, такія цікавыя і вельмі ж падобныя маскі-шапкі зайчыкаў, ліскі, мядзведзя. Удзельнікі праявілі сябе добрымі артыстамі, асабліва вучні старэйшых класаў.

Паміж пастаноўкамі абодвух тэатраў выступіў з нізкай беларускіх мелодый ужо вядомы ў нашым асяроддзі вучнёўскі секстэт акардэаністаў, які працуе пад пільным вокам настаўніка Сцяпана Копы. Аб ім „Зорка“ ўжо пісала нядаўна.

Карнавальныя гульні сталі таксама аказіяй, каб уручыць узнагароды лаўрэатам школьных дэкламатарскіх конкурсаў для вучняў сярэдніх і падставовых школ. Конкурс пад лозунгам „Беларусь“ адбыўся пад канец мінулага года. З нагоды ўручэння ўзнагарод, лаўрэаты яшчэ раз выступілі перад слухачамі. Былі сярод дэкламатараў Міраслаў Здрайкоўскі з Бельска, Аня Зін з Гайнаўкі, Эля Ваўранюк з Храбалоў, Аліна Адамюк з Бельска, Аліна Міхалевіч з Чыжоў, Кася Сегень з Бельска.

Пасля такога багатага канцэрта гаспадары балю запрасілі дзяцей на пачастунак. Падмацаваўшыся, усе малыя госці аддаліся раскошы рытму і музыкі пад зладжаныя гукі аркестра „Зярняткі“ з Пашкоўшчыны.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**



*Дзявочая група „Зярнятак“.*

### АРНАМЕНТ

**Гэты дом шматпавярховы**
**Часам здольны да абновы.**
**— Паглядзі, — кажу я маме, —**
**Хто аздобіў у арнамент**
**Наш панэльны новы дом?**
**— Чарадзей?**
**Ці можа гном?**
**Як жывая, цэгла смела**
**У радочак роўны села.**
**Задаволена карніз**
**Паглядае зверху ўніз.**
**Потым вынырнуў раптоўна**
**З хмары белай, як бавоўна,**
**Пагражальна шэры цень —**
**— Міг!**
**Арнамент узляцеў.**
**— Ну, — скажыце,**
**Хто там быў?**
**Сам — Арол**
**І галубы.**

**Мікола Бусько**




* * *

БССР, 225140, Брэсцкая вобл., г. Пружаны, вул. Савецкая, 6, кв. 39. Сацукевіч Лене (14 гадоў).

* * *

БССР, 225140, Брэсцкая вобл., г. Пружаны, вул. Леніна. 158, кв. 5. Цыганчук Лене (14 гадоў).

* * *

БССР, 225140, Брэсцкая вобл., г. Пружаны, вул. Міра. 68а, Макарчук Лене (14 гадоў).

* * *

БССР. 220047, г. Мінск, вул. Несцерава, 86/2, кв. 81. Цяцерынец Олі (14 гадоў).

* * *

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, с. Краснае, вул. Карбышэва 3, кв. 2. Чупраковай Тані (7 клас).

* * *

БССР, 225710, г. Пінск, вул. Студэнцкая, 1, кв. 29. Андрэю Паўлаўцу (6 клас). Хоча перапісвацца па-беларуску з хлопчыкам, якому 12 гадоў.

* * *

БССР, 225710, г. Пінск, пл. Леніна, 4, кв. 61. Данілкінай Наташы (5 клас).

* * *

БССР, 224028, г. Брэст, вул. Сонечная, 84/1, кв. 10. Стасюк Яні (12 гадоў).

* * *

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, с. Краснае, вул. Карбышэва, 3, кв. 6. Дубоўскаму Дзянісу.

# Дзіцячыя малюнкі



*„Рыбы і птушкі“. Малявала Магда Пятрук, 4 гады.*

## Вучнёўская творчасць

**Дарагая „Зорка“!**

Я вучуся ў трэцім класе Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай у Гайнаўцы. Пішу да Цябе першы раз. Да гэтага нагаварыў мяне мой настаўнік беларускай мовы. Мы пісалі працы аб Калядзе і на вольную тэму. Настаўніку спадабаўся мой верш, і ўсяму класу таксама. Можа і „Зорцы“ ён спадабаецца?

### МАМЕ

*Мама — гэта чароўнае слова.*
*Якое яно цёплае, сардэчнае.*
*У маміных валасах першае*
*срэбра.*
*Адкуль яно ўзялося? — пытаюся*
*сябе.*
*А можа гэта бабіна лета —*
*Укруцілася і не хоча адыйсці?*
*Мама, скажы мне праўду.*
*Прашу.*
*Я памятаю, як ты так нядаўна*
*Спявала мне калыханкі.*
*Ці ж гэта мінула, прайшло?*
*Мама, твае рукі*
*даражэйшыя за ўсё.*
*Я буду крычаць усяму свету,*
*што*
*Мама — гэта жыццё.*
*Памятаю, не раз ты плакала,*
*Цяжка табе было.*
*Я не забуду ніколі ўсяго,*
*Што ты мне дала.*

**Кацярына Грыкоўская**
**Ліцэй у Гайнаўцы**

## Вясёлы куточак

* * *

Пеця еў цукеркі.

— Пакладзі на месца, — сказала мама, — ад цукеркаў псуюцца зубы.

— Калі я пакладу цукеркі, у мяне папсуецца настрой, — адказаў Пеця.

* * *

— Надзейка, ты такая вялікая, а ўсё яшчэ лялькамі гуляеш, — прысароміла дачку маці.

— Гэта ж не я з ёю гуляю, мамачка, — адказала дзяўчынка. — Гэта яна са мною гуляе, бо яна маленькая...

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**Станіслаў Шушкевіч**

### ПАБІЛІСЯ ДВА ВАЎКІ

**На сярэдзіне ракі**
**Гагаталі гусакі:**
**— Выюць, б'юцца два ваўкі**
**Каля нашай асакі.**

**На ілбах іх гузакі,**
**Шмат на пысах сінякоў.**
**Ці ж вы бачылі такіх**
**Хуліганаў-дзівакоў?**

**Раптам стрэл ваўкі пачулі,**
**Ім здалося: свішчуць кулі...**
**Воўк за воўкам драпанулі,**
**З паляўнічымі — не гулі!**

**Засмяялася сініца,**
**Будзе дрэнны сон ім сніцца**
**У цесным логаве пад пнём**
**Будзе страх пячы агнём.**

**Больш не ўбачаць гусакі**
**Двух ваўкоў ля асакі,**
**Яны ў логаве глыбокім**
**Будуць грэць пад мохам шчокі.**

## АДГАДАНКА



**У кружочкі фігуры ўстаўце лікі ад 1 да 13. Неабходна зрабіць так, каб сума чатырох лікаў, расстаўленых у кружках-вяршынях усіх адзінаццаці квадратаў, была адной і той жа.**


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul Wesołowskiego 1. „Зорка“.

## КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) з ёе па верабʼях не страляюць, 6) не адна на зебры, 7) выкарыстоўваецца ў гандлі, 10) ім выціраем не толькі рукі, 12) мясцовасць на Беласточчыне, якая можа цвісці, 13) прадукт з кіслага малака, 16) дзяржава, край, 18) зялёнка і ёе „сваячка“, 19) у руках цырульніка, 22) спакойны, нязлосны (пра звяра) або зговорлівы, дабрадушны, лагодны (пра чалавека), 24) заява на не, 25) спосабы і прыёмы змагання.

**Уніз:** 1) не святыя яго лепяць, 2) помесь кабылы і асла, 3) прыбор з „парай“ у сярэдзіне, 4) бывае ад болю, гора і абіды, 5) скрынка для жывёл або ўстанова для дзяцей, 8) знаходзяцца яны ў СССР, Польшчы, Чэхаславакіі і Румыніі, але няма іх у ГДР і Венгрыі, 9) 2÷2=5, 11) прыток Нарвы, які цячэ праз Белавежскую пушчу, 14) пасля ўдыху, 15) вядомы шматгадовы савецкі палітык, які нарадзіўся на Гомельшчыне, 17) даплыў да яго Ноеў каўчэг, 20) Нёман, 21) месца гандлю, базар, рынак, 23) безнадзейнае становішча або брыдкая лаянка.

„ядань“

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з № 52:**

**Упоперак:** касцюм, кіпарыс, крыжаванка, шпак, Омск, лёгкія, алібі, рот, лупіны, атаман, гол, крама, асечка, з'езд, цень, малатабоец, астанкі, графік.

**Уніз:** кляштар, цырк, муж, івасі, ачко, стукат, канібалізм, Ангола, амерыканец, літара, ямінка, унучка, бальшак, газета, сваяк, дата, цела, Бог.

**Узнагароды выйгралі:** Сяргей Аляксандраў з Наваполацка і А. Рабушкін з Гродна.



# НІЎКА



Мал. Тадэуша Зярніцкага.

# АФАРЫЗМЫ

Намнога карысней карыстацца чужым сумленнем.

*

Калі палохаць каня, кожны аўтарытэт падае з яго.

*

Тое, чаго няма, таксама мае сваю гісторыю.

*

У святле праўды нават не цень відаць.

*

Лянота здаровага чалавека — гэта калецтва яго душы. Лянота людской групы калечыць усё грамадства.

*

Дабрыня не мае права на адпачынак.

*

Ветлівасць: тэмперамент у намордніку.

*

Ведаў як маліцца, дык шукаў багоў.

*

У слоўніку яго памяці слова АЙЧЫНА знаходзіцца на першым месцы... у дадатку.

*

Пакуль лічыш сябе прыяцелем, ёсць вас двух.

*

Калі пакідае вас розум, не гаварыце аб ім дрэнна.

*

Кожны сланечнік мае штосьці зВан Гога.

**Веслаў Маліцкі**

## ІКРА ДЛЯ МІКІТЫ СЯРГЕЕВІЧА

Раніцай, на другі дзень пасля вызвалення ад пасады, Мікіта Сяргеевіч гаворыць пакаёўцы: „Ну-с, цяпер я буду жыць, як звычайны савецкі пенсіянер. Схадзі-ка, мілая, у магазін, вазьмі „кватэрачку“ і ікрачкі чырвонай грам з дзвесце“.

Пакаёўка пайшла і вярнулася толькі вечарам.

— „Кватэрачку“, Мікіта Сяргеевіч, я гэта мігам купіла, а вось ікрачкі — хоць забі, няма, усю сталіцу абегала.

— Вось! — злосна крыкнуў Хрушчоў. — Вось! Як яны далей жыць будуць! Адзін дзень, як без мяне, а ікра ўжо прапала.

*

Селянін зайшоў у вясковы магазін. А ў магазіне хоць шаром пакаці.

— От, чорт вусаты, да чаго краіну давёў! — злосна сказаў мужык.

Тут жа за яго плячыма выраслі два ярыя малайцы ў форме НКУС, узялі мужыка пад рукі і павялі проста да Берыі. А Берыя ўзрадаваны валачэ калгасніка працоўсенька да Сталіна.

— Гэта ві каго мелі на ўвазе, калі сказалі „вусаты чорт“? — ласкава запытаў Сталін мужыка.

— Гітлера! Каго ж бы яшчэ? — не разгубіўся той.

— А ві, Лаўрэнцій Паўлавіч?

*

Граніца. Таможны кантроль. Верабей у форме італьянскага таможніка, паглядзеўшы багаж савецкага вераб'я-эмігранта, гаворыць: „І куды гэта вас нясе ад роднай страхі?! І з харчамі ў вас, газеты пішуць, усё добра. Да дваццаці працэнтаў ураджаю зернявых па дарогах рассыпана! Не разумею!“

— Не адным хлебам! — задзёр дзюбу эмігрант. — І пачырыкаць хочацца.

*

Чэрчыль, Сталін і Рузвельт едуць у аўтамашыне. З лесу выходзіць карова і кладзецца проста на дарогу. Аб'ехаць немагчыма.

Чэрчыль выходзіць з машыны і прабуе адагнаць жывёлу дубінкай. Безвынікова. Тады тое ж самае прабуе зрабіць каўбойскімі крыкамі Рузвельт. Без толку. І вось з машыны выйшаў Іосіф Вісарыёнавіч. Падышоў ён да жывёліны і штосьці шапнуў ёй на вуха. Карова мігам усхапілася і стрымгалоў уцякла.

— Што вы ёй такое сказалі? — пацікавіліся спадарожнікі, калі Сталін вярнуўся ў машыну. Той дастаў трубку, усміхнуўся ў вусы і прамовіў:

— Я ёй сказаў: калі будзеш далей ляжаць — аддам у калгас!

*(„Крокодил“ № 21/89)*

## НЕШЧАСЛІВЫ ЛЁС

У суседа — дача
І машына „Ніва“,
А ў мяне — сабачы
Лёс мой нешчаслівы.

У мяне кватэра
У кааператыве
І таму, халера,
Як хамут на шыі.

Каб не бацька з маці,
Быў бы я „вясёлы“,
Гойсаў бы па хаце
З задніцаю голай.

Дзягу на сем дзірак
Караціць прыйшлося б,
А падняў бы гіру —
Гора б адбылося.

Трохі б пахістаўся,
Трохі б нахіліўся,
Як вяроўка б склаўся
І касцьмі б накрыўся.

У суседзяў — дачы,
І машыны „Нівы“,
Гэта ўсё ў прыдачу
Да кааператыва.

Што ў іх за зарплата,
Я ніяк не ўцямлю,
Можа, жонка й праўду
Кажа, што я мямля?

**Янусь Малец**


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Мірaслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ала Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі“).

„Niwa“

ul. Wesołowskiego 1

15-950 Białystok, skr. poczt. 149

tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty pocztowej na 1990 r.:

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek w których nie ma Oddziałów RSW a także osoby niepełnosprawne bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1990 r. upływa 20 lutego 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 1.300 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch“, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw. Warszawa, ul. Towarowa 28 Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

Mieszkańcy miast mogą zamawiać prenumeratę indywidualną poprzez Oddziały RSW w następujących formach:

— prenumerata instytucjonalna (w zakładach pracy).

— rezerwacja w tzw. teczkach (we wszystkich kioskach).

— prenumerata własna RSW (w wytypowanych kioskach).

Zam. 147/90 r. U-3.